## *КАМОЭНС*

Шторм акіянскі
патрушчыў, кінуўшы на рыфы,
карабель... Шматкі парваных ветразяў,
абломкі мачт, абсмаленыя дошкі,
жывыя душы маракоў,
іх крык апошні аб ратунку — ўсё
глынула кіпучае прадонне...
Ды глянь — які плывец у шторме
спрабуе шчасця?

Няўжо мне гэта ўсё прыснілася?
Ці усплыло ва мне з глыбінь маўчання —
са дна пяці стагоддзяў?..

Спрасоння не магу утаймавацца:
задыханы, яшчэ ўпіваюся
збялелымі да хрусту пальцамі
у нейкую смалянуто дошку
на гарышчы бацькавай хаты...

А вусны шэпчуць мройліва:
«Памажы, ойчы кут,
твайму плыўцу у шторме жыцця
даплысці да высокага берага мэты,
як калісьці з разбітага карабля
даплыў да чалавецтва
знакаміты бард, сын Адраджэння
Камоэнс,— ухапіўшыся
адной рукой за дошку,
другой рукой высока трымаючы
над галавой
свае «Лузіяды»...

## *НЕРАСТ*

Праз акіян вандруюць касякі —
і хто ім шлях паказвае свяшчэнны?
Цячэнні?
Млечныя свячэнні?
Ці матчын покліч дальняе ракі?

Бывае, ўдарыць шторм.
Патушыць зоры.
У змроку — неба, хвалі, астравы...
А сёмга і праз кіпень штармавы
ідзе да нерасцілішчаў Пячоры.

Разліты ў акіяне прэсны пах
гаркавых лоз
і спелых траў нізоўя...
Пячоркі, лёхі роднага гняздоўя,
які да вас цяжкі, пакутны шлях!

Як праслізнуць
праз петлі ўсіх цянётаў,
мінуць чыюсьці прагнасць, глухату —
і ўсё ж прарвацца ў ціхую ваду,
хвастом расчысціць ямкі ля чароту!

І высеяць бурштыны буйных зор,
укрыць іх, як дзіцятак,
Млечным Шляхам...
Прыпасці да крыніц сваіх, пячор
і, як выгнанніку пад родным дахам,
сканаць...
Каб стаць жыцця працягам!

## *НА АЛМАЗНАЙ ТРУБЦЫ*

Стаю над прорвай,
што завецца т р у б к а ю.
Яна, як дрэва,—
ўніз магутнай кронай!
Не трубка — стадыён з трыбунамі.
Глыбозная алмазная карона.

Не трубка,
а прадонне кратара.
Загадкавая быль зямного эпасу,
што ў мерзлату ўпісаўся
э л і п с а м —
алмазамі ў тысячы каратаў!

З саракатоннай грузнай ношаю
ледзь выпаўзаюць з кратара
«БелАЗы» —
і рэчкай Плісаю,
старонкай нашаю
дыхне у твар ад руд алмазных!

Цяжкая ноша!
Грымотны пошчак сіні...
Сасонкі ў шэрані пасталі.
Таемныя касмічныя глыбіні
дрыготка свецяцца ў крышталі.

І каласы жніўнога лета,
і лайнеры,
і новыя кварталы,
спакой і гром нябёс —
няўжо ўсё гэта
адна далонь мая трымала?

На стол алмазы леглі кучай...
Замежны госць самлеў, нябога!
Упаў, нібыта ад падучай...
А мне, гляджу,
як бы нічога!

А мне, скажу,
зусім няблага,
калі трымаю скарбы краю.
Мяне нічуць не слепіць прага
валодаць тым,
чым уладаю.

## *У ЛЯДОВАЙ РАЗВЕДЦЫ*

На лакатары ўспышкі экрана.
Загараюцца глыбы ільдзін.
Мы ляцім...
                    У ільдах акіяна
карабель-баржавік заблудзіў...

На сігналы —
                    ён ледзь адгукаўся
праз туманы, надвоблачны дым...
У палёце мне свет адкрываўся
з нейкім болем тужліва-зямным.

Загараліся айсбергі ўдалечы —
на экран ад іх пырскаў прамень...
Я на кожным тым айсбергу бачыў
разам з промнем —
                    «Тытаніка» цень...

Свет і лёс наш
                    іначай тут важаць:
у палёце імкліва-зямным
мы, зямляне,—
                    ў адным экіпажы!
Мы заручаны лёсам адным!

На экране люструецца прысак:
гэта, пэўна, даходзяць сюды
і успыхваюць зернямі рысу
ў джунглях
                    выбухі чорнай бяды?..

Узрываецца ў чуйным блакіце
крык далёкіх і блізкіх зямель...

Свет,
      няўжо ў ледзяным лабірынце
заблудзіў ты,
            як той карабель?!

Мы ляцім...
І на трасе лядовай
між таросаў чарнеюць хады...
Задзіраюць маржы галовы,
адпаўзаючы да вады.

## *ЦІКСІНСКАЯ МАДОННА*

Ля мора Лапцевых,
між кранаў партавых,
яна стаяла —
горкае дзяўчо!
Чарнявыя дзве коскі з галавы
журботна ападалі на плячо...
Яна чакала —
з лялькай на руках! —
напэўна, бацьку...
І з дзіцячаю тугой
усё ўглядалася ў лядовы шлях,
спавіты таямнічаю смугой...

Туды, між белых крыг,
у ледастаў
калісь паехаў бацька...
І растаў...

О Ледавіты,
хоць са дна свайго —
вярні яго!

## *СЛУХАЕМ «SOS!»*

Тры хвіліны маўчання —
як рана!
Абрывае радыст перастук...
Б'ецца, б'ецца ў маю мембрану,
як пчала у акно,—
дзіўны гук...

З-за ільдзінаў крутых, глыбозных
ці то вецер
крык чаек данёс?
Ці з пустых туманоў прамозглых
ледзь даходзіць,
канаючы, «SOS!».

Здрыгануцца радары, пілоты,
беручы на збавенне курс...
Дзе ты, дзе —
у якіх шыротах,
«SOS!» адчаю, пагібелі груз?

У навушніках —
хваляў усхліпы?
Ці разрады далёкіх грымот?
Ці, ўсплываючы,
сінія рыбы
труць луской серабрысты лёд?

З трэскам лопае змрок імжысты...
Да прастораў я слыхам прырос...
Гэтай хвіляй
радысты, радысты
на ўсім свеце слухаюць «SOS!».

Тры хвіліны — не больш! —
тры хвіліны
заміраюць марзянак ключы.
Тры — на кожную паўгадзіну! —
свет трывожна і чуйна маўчыць.

Але ж колькі —
як выбух гранаты —
ў свеце рвецца з-пад сэрцаў «SOS!».
І ці вызначыш каардынаты,
курс ратунку —
на кожны лёс?

Абвядзіце чырвоным на карце
кожны боль,
кантыненты без сну.
І на пошук ратунку дадайце
ну яшчэ —
хоць хвіліну адну!

## *БЕЛЫЯ ГУСІ*

Белыя гусі —
стойбішча крыг беласнежных —
спуджана з хваль паўзляталі.
Можа, вам здаўся птахам драпежным
«Іл» над ільдамі?

Можа, таросы, гулкія крыгі,
спудзілі пырскамі лёду?
Ў страху пухнатыя воблачкі крыку
збіліся тлумна ў чароды...

Стойце — куды ж вы?!
Здурнеўшы ад грому,
з перапалоху сляпыя,
рынулі ўсе —
наўстром грому цяжкому!
На вінты віхравыя!

Руль — на сябе!
І з адчайнасцю злою —
у штопар! — машына ўзвыла.
Позна... Эх, позна!
Аб шкло ветравое,
цяжка ламаючы крылы,
залопаў гусак...

Я жмуру павекі
ад болю, ад нейкага жаху.
Вось і ўвесь эпізод...
Дзве стыхіі веку —
о, сустрэча двух птахаў!

* * *

Спачатку ўсё ж быў хлеб,
а потым — слова.
Спакон быў чалавечай мовай хлеб.
Пакладзены на стол,
па-роўну разламаны,
як мудра ён яднаў плямёны,
свет людзей!
Здабыты ў поце твару,
хлеб прарочыў
саюз працоўны чалавека
з чалавекам.
Вяртаючы касцям трываласць крэмня,
а вуснам — шэпт ласкавы траваў,
хлеб мацаваў адзінства
чалавека і зямлі...
Што можа быць трывалей і смачней,
чым той акраец, што падзеляць
гора ці нястача?..
Любоў і чалавечая усмешка,
сагрэтая даверам разумення,—
які гэта салодкі, незаменны,
духоўны хлеб!
Святое цела хлеба гэтага
пераламіце і раздайце
усім галодным,—
ешце!

## *КОЛАС НА ІРЖЫШЧЫ*

Зазімак выхаладзіў неба.
Вятрыска свішча на іржышчы.
Зламаны колас на сцябліне —
як журавель на папялішчы.

Не станеш ты у печы хлебам,
крупінкай радасці дзіцяці.
Цябе не будзе ў тым акрайцы,
што пакладзе ў дарогу маці.

Сябры па каласістай ніве
даўно на хлебадайным шляху.
Твае ж нязжатыя зярняты
хоць падмацункам будуць птаху.

Калі не рунь, калі не луста,
то хоць лятунак — сон тужлівы:
крылуе птах, у дзюбе колас —
галінкай мірнаю алівы.

## *БАЛЕТ НА ЛЁДЗЕ*

Пад канькамі запырскаў лёд.
Штучны лёд...
Ах, не бачыць бацька!
Што б сказаў ён пра постацяў лёт,
лёт калёраў, карункаў,
банцікаў?

Помню, ён не сціхаў дзівіцца:
Фігурысты...
Блакітны экран...
Хіба можна згібаць гэтак стан
і, нібы верацёнца,
круціцца?

— Э-э, няпраўда!
А сам жа, бядак,
на палетку не так круціўся
і згібаўся ў рабоце не так,
пакуль адараўся,
адмалаціўся...

Штучны лёд...
Скача прывід агнёў.
Кружыць грацыя і ілюзія...
Мяне штосьці адносіць
да каранёў...
Малацьба... Стагаванне...
Людзі...

За сялом
азярынка пад шклом —
там да ночы ад самага золку
кружыць зноў

калясо пад калом —
іскрамётная наша круцёлка...

Дзе тут праўда,
а дзе міраж?
Ці няма і між імі сваяцтва?
Цела ў танцы —
іграе аж!
Цела ў працы —
хіба ж не мастацтва!

Чарадзейства тэхнічнага цуд.
Прыцягальная магія ножак.
Заглядзеўся люд.
Замірае люд.
Тут ідзе ачышчэнне прыгожым.

Ах, відовішча!
Лебядзіная песня канькоў...
Да ўтрапення даводзяць чары.
Каб не чары,
ў суседак — з бакоў —
маладосць ці гуляла б на твары!

Тут каханне —
як бляск імітацыі.
Спалучэнне агню і гарэзіі...
Я сціскаў твае цёплыя пальцы
і пытаў: што такое
Паэзія?

* * *

У працы рукі крэпнуць да пары.
Далоні намазоляцца, стужэюць.
Разбітыя ў касцях, яшчэ дужэюць,
як дрэва з трэшчынамі на кары.

Прысядзеш, войкнуўшы, калі рука
у поціску з тваёй рукой самкнецца.
Што мой кулак, калі жалеза гнецца
у пяцярні рабочай дружбака.

Ды спакваля ўядаецца ў далонь,
нібы іржа ў жалеза, злая стома.
Падточвае знутры, як сцены дома
той шашаль, што залез пад абалонь.

Узбухнуць вены, як напровесну рака.
Аслабнуць пальцы, як прытокі ў спёку.
І просіцца: не цісні так з наскоку,
бо я ўжо спрацаваная рука.

* * *

Маланка спаліла арэх,
абвугліла мякаць каморкі —
там зерне ўзыходзіла зоркай,
там свет мой ружовы згарэў...

Той свет, як арэх спапялёны,
на вуснах гарэніць...
Гляджу
на марыва промняў, дажджу,
на век, на разбег шалёны...

І толькі ў дыханні галля —
ні спешкі,
ні штурмаўшчыны.
Чаму ж твой закон не адзіны
для ўсіх нас, матуля-Зямля?

Світанні і ночы густыя
па жылах цякуць спакваля.
Чаму ж часам родзіш, Зямля,
ты нас, як арэхі пустыя?

Мая светач-яснасць Зара!
Кранаюся чуйнасці ранку —
рукой засланяю маланкі
для мудрасці спелай
ядра.

*ПАРТЫЗАНСКІ ХУТАР*

Калі ласка,
Не зносьце гэты хутар!
Пакіньце ля самай дарогі стагоддзя.
З печчу-таўстухай —
колькі з-за чорнае засланкі
тут узыходзіла бохanaў-сонцаў
        (кожную ноч!)...
З прашараванымі ночвамі,
дзе кіпень круты з чыгуноў
вяртаў закарузлым бінтам і кашулям
кужэльную свежасць
        (кожную ноч!)...
З трафейнай каністрай,
змеевіком на пліце,
дзе выціскалася сіняя моц —
па кроплі на раны
        (кожную ноч!)...
З тым абразом на куце ў ручніках,
перад якім на калені
        (кожную ноч!)
падала стомлена маці,
хрысцячы дзверы і вокны,
родную зямлю.

## *ДАЛЁКІЯ КАСТРЫ*

Касцёр у яме бульбяной
распальваю... Уверсе хвоі
шумяць трывожна... Заглядаюць,
што я раблю...
                    Падпальваю ламачча.
Агонь дрыжыць у ядлаўцовых лапках,
калючых, рыжых, нібы хвост лісіны...
Курыцца ў яме даўкі дым...
Кароў паадганяўшы, сябра хутарскі
спускае краем ямы, па пяску,
мне асцярожна ў рукі, на бярэмя,
снарад —
                    як парасё з падбітым лычам...
Яго мы тут рашылі падсмаліць —
маўчыць, пакуль агонь бакі не ліжа!
Кладу ямчэй на вогненны сушняк...
Дрыготка, аслабела ныюць рукі...
Гарачы дым і слепіць і пяршыць...
Я адхіснуўся прэч,
                    шукаючы падпору,
рвануўся ўверх, чапляўся за пячуркі,
каленкі абдзіраў, караскаўся, і поўз,
і аб'язджаў на дно —
                    ў куродым ямы...
Галлё, ніжэй,
                    ніжэй нагніся!..
Пясок у яме жоўтай стаў сівым,
а хвоя чорнай, нібы маці!

Адкінутае хваляй выбуховай,
ляжыць у непрытомнасці
маё маленства.

# *ДЗЯВОЧЫЯ ПІСЬМЫ*

*Антаніне Харкевіч*

Пісалі пісьмы на вайну дзяўчаты...
Ляці, ляці, трохкутнічак, шпарчэй!
Знайдзі салдата, абагрэй салдата
пяшчотай незабыўнаю вачэй.

Бяды хапала, ярасці хапала,
штыхоў сталёвых, ранкаў штармавых.
А вось лістоў дзявочых неставала
байцам падчас на пунктах агнявых.

Як іх чакалі ўсе — не дачакацца! —
іскрынкі той жывога пачуцця,
што кожнаму была як сімвал шчасця,
як нейкая гарантыя жыцця...

А як чыталі, каля сэрца грэлі,
як грэліся крупінкамі любві!
І ў гэты міг нябёсы зноў сінелі,
хаця зямля ў агні была, ў крыві...

Я бачыў сам і дым і кроў на травах,
і кожны той трохкутнічак, каб мог,
я шчыра упісаў бы ў моц дзяржавы —
на тым шляху,
што праз агонь пралёг.

* * *

Да каранёў прыходзім мы пазней.
Спачатку ў нас віруе адмаўленне.
Сцяблом зялёным
выплыў ледзь з насення —
а ўжо за свет, здаецца, разумней!

Працяг бунтоўны тоіцца ў зародку.
Працяг твой і канец —
яму відзён!
І ў хаце валасаты маладзён
на бацьку пазірае,
як на продка...

Зялёная пара неразумення —
перад нялёгкім вопытам дарог.
Як сёння дараг, ойча,
твой парог!
І дараг будзе мой
у мудрасці сталення.

* * *

Складанасці жыцця...
Усё складана!
Траве — расці!
Зямлі — радзіць аддана.
Складана брод знайсці.
Дарогу перайсці — складана!
Ісці сваёй сцяжынай у жыцці
той, што табе наканавана.
Пакінуць след, сыходзячы ў нябыт,
без ганьбы, без шальмоўства...
Складана чалавекам быць.
Астатняе ўсё —
проста!

* * *

Мы жывём
пад знакам перамен.
Не змільгне —
ад раніцы да вечара.
Час, як арматуру аўтаген,
нешта рэжа,
зварвае,
высвечвае.

На вачах —
праносяцца вякі.
...Атамны.
...Касмічны.
...Электронны.
Тут вякі,
нібы таварнякі
у трывожным грукаце
над стромаю.

Мне б саскочыць —
затрымаць бы міг!
Пастаяць з табой
на схіле вечара.
Нешта, чуеш,
творыцца ў саміх...
Ці не варухнулася
адвечнае?

* * *

Канфліктуе з сэрцам
розум, цела...
Кожнаму лагоду,
згоду — дай!
Нешта асалоды
захацела.
Нешта цягне ў пекла.
Нешта — ў рай...

Хочацца —
таму паспавядацца.
Хочацца —
таго адспавядаць...
Дзе тут сэрцу
з кожным разабрацца.
У каго ж парады
запытаць?

Я прашуся ў сэрца:
дай цярпенне!
Не спяшайся — літасць,
гнеў — чакай!
Калі ёсць сумленне,
у сумлення,
толькі у сумлення
запытай.

* * *

Палю за сабою масты.
Кожны міг — гэта з нечым расстанне.
Чуеш — быццам грымяць капыты
і вазы тарахцяць на змярканні...

Як нялёгка з узростам паліць
у сабе — галасы, адгалоскі
той далёкай застрэшнай вёскі,
што ўспамінам ва мне смыліць.

Як шкада аддаваць агню
цішыню за мастамі драўлянымі,
і чарнічных бароў гушчыню,
і птушыную песню з палянамі.

Новы бераг мой, ты для мастоў
у жалезабетонных зводах.
Грамыхаюць саставы ў пралётах,
як табунны галоп капытоў.

У саюзе бетону з жалезам
ёсць трываласць, якую хвалю.
Ды на гулкіх шляхах прагрэсу
я драўляных мастоў не палю.

* * *

Прасвету выглядваю... Справы,
навалам ідуць без канца.
Чакаю то злева, то справа
з заданнем якогась ганца.

Упрогшыся, зноў суцяшаю:
закончу — і хопіць кружыць.
Здам «тэму». Дзяцей падкачаю.
І можна, здаецца, пажыць.

Упраўлюся з гэтаю рэччу,
вазьму яшчэ той рубеж...
Ды нехта старанна на плечы
узвальвае спраў бязмеж.

Бывае, ў задышцы, шпарка
закончу ўмалот-акалот...
Ды вечна вісіць над каркам
якаясь з галоўных турбот.

Я кінуў бы біч, і цапільна,
і мудрасці кніжнай сціло.
Я нават, як іншыя, схільны
зашыцца б у глуш, у сяло.

Ды ўсюды — і справа і спадчына —
адна ў нас. Участкі ж — не.
І тое, што мне прыназначана,
не зробіць ніхто за мяне.

* * *

Каштаваў я жыццю нямнога,
Больш з каша ішло,
а не ў кош.
Можа, потым глаўбухі бога
падрахуюць мой сабекошт.

Не курыў і не піў запоем.
Не кружыў каля славы свяціл.
Злу не спрыяў.
Любіў святое,
хоць у бога дзяцей не хрысціў.

Не спазнаў усяго, не пабачыў.
Ад жыцця браць усё — не ўмеў.
Аднаго я хацеў —
без астачы
праспяваць свайму краю спеў.

## *САЛАВЕЙ*

Ні дождж зарадзіў!
Па ядлоўцах дразды
не трашчаць:
пэўна, ў дзюбы набралі вады.

Да пяра, кіпцюра
вымак птах і звер.
З лісця кроплі
дрыготка ляцяць за каўнер.

Толькі што там за гук —
дзе альшэўе, карчы,
дзе пялёнкай замглёнай —
дажджы, дажджы?

Перазвоны крыштальныя
ручая?
Перашчоўк пералівісты
салаўя?

Я крадуся праз голле
да песні тае —
голле душам халодным
мяне абдае.

У «каленцах»
зіхотна іграе прамень.
Я ж не чую змакрэлых
ні плеч, ні калень...

Асыпаецца ў кроплях
то срэбра, то медзь.
Салавей і ў нягоду
не можа не пецьǃ..

Але што ж варухнулася —
можа, ўваччу?
Мо на пні не гадзюка —
струмень дажджу?

Неахвотна яна
з пня саслізгвала ўбок —
не адводзіла з песні
ўтараплены зрок!

Ртуць халодным струменем
сплыла між куп'я...
Няўжо слухала тут
і яна салаўя?

## *БАЛАДА ПРА САБАКУ*

Конь у лесе вушамі стрыг.
Касавурыўся конь... А ў цішы
падвываў толькі вецер
і з лапін старых
за каўнер закідаў ледзяшы.

Страпянуўся гняды... Можа, снег
паміж лозаў пустых сінеў?
Хвост угнуўшы,
                    сабака бег
і павіскваў каля саней.

Заўпарціўся конь... І стаў!
Ледзяшы за каўнер спаўзалі...
Раптам енкнуў сабака
і ад куста
пакаціўся кулём на сані!

Хіб тапырыў і скігітаў.
З перапуду зубамі пастукваў.
Як ён рукі лізаў!
Як заглядаў
у вочы свайму заступніку!

Поўсць абвісла, бы нехта выскуб.
Збоку — злым аганьком светлякі...
Схамянуўся стары
                    і ў хмызнякі
свайго Лыску шпурнуў
як выкуп!

З бяды вынеслі ногі каня.
З любатой выціраў яго, ў мыле.

Ай ды конь!
Толькі нешта ныла
і заснуць не давала да дня...

Раніцой, ледзь затлела зара,
хтось пашкрабаўся ў дзверы:
— Лыска!.. Лыска!!
А ён жоўтымі зрэнкамі
горка бліснуў,
паглядзеў —
і сышоў са двара.

## *ВАЎЧЫЦА*

З лагва мы ўзялі чацвёра.
Адходзілі —
шэрхла цела:
а раптам да воўчых нораў
і сама яна падаспела?!

Не данёсшы крывавай пажывы,
застыла,
вачам не верачы...
Узяла свежы след па ажынах —
толькі цень мільгануў па верасе...

Гэта шэрая поўсць
ці то лісце?
Мох шарсціўся над пнямі лысымі...
За плячыма ў мяшку таўкліся
ваўчаняты цёплымі пысамі.

Падганяючы нас, скуголілі.
На сляды падаў пах ваўчыны...
Пад калючаю шчэццю голля
мы адно —
ад траіх адлучылі.

Тых —
у вёску.
А гэта —
заложнік!
Мех скігіча пад рыжай ігліцай...
І няўжо здурнець яна можа,
асцярожнасць забыўшы,
ваўчыца?!

Пах дзіцяці...
Пах шроту з урочышча...
Шэры цень на сцяжыну выбег.
Яна бачыла нашае сховішча
і адкрыта ішла на выбух.

## *ВЫБАР*

*1*

Сям'я ласёў,
учуўшы звера дух,
сарвалася з папасу —
дай бог ногі!
Паперадзе важак сягаў за двух —
каронай на хрыбце гарбатым рогі.

Але адзін прытомлены рагач
пачаў здаваць —
захлябісты, зблажэлы.
Не мог з другімі высціжыцца ўскач —
у гонцы ашалелай.

Нявылінялы,
рваў ён аб сукі
сваю нямогласць —
поўсць на клочча!
І паласнулі па нагах клыкі
з адвечнай праватою воўчай...

*2*

Выводзіў чараду сваю важак.
Карчэўе тупат біў
дваццаціногі...
Высока нёс ён,
як збавення знак,
арыенцір —
каронай рогі...

Але сачыла ўпотай з хмызняку
пакваністае вока...

Што, апошні?!
Зрок хіжа ўзяў прыцэл — па важаку!
Па важаку!!
І прыгажун кульнуўся на скаку...
Агнём падкошаны...
Каронай рогі...

## *ПЕСНІ ДРЭЎ*

Дрэвы свету
праспявалі столькі песень —
мінорных,
калі на сэрцы у цябе пагана,
віхурных,
калі душой трывогі заўладаюць,
плакучых,
калі не гоіцца цяжкая ростань,
водарна-хмельных,
калі ў табе каханне загняздзіцца...

Адгаманілі ў верхавінах,
здаецца, ўсе сугуччы і паўтоны.
Але зялёная калыска
яшчэ калыша столькі новых песень,
што іх, калі на добры пойдзе лад,
ніколі ў свеце
не пераспяваць
дрэвам і людзям.

* * *

Відавочцы,
пішыце пра сум журавоў —
яны ўсё радзей плывуць караванамі
паўскрай гарадоў,
над імшарамі
заараньмі...
Пішыце пра досвіткі,
яшчэ не задымленыя,
пра лясы парадзелыя,
ды яшчэ неабдымныя,
пра капэлы птушыныя,
васількі ў жыце —
пішыце,
        пішыце...

* * *

Народжаны ў свеце машын,
я, помню, глытаў, захмялелы ад шчасця,
іх чад, іх шызы ўдушлівы дым,
калі наўздагон з хлапчукамі
чапляўся за борт
таго грукатлівага
першага дзіва...

Сёння ж з нетраў
запульсавала ў сталёвых жылах
столькі вогненных акіянаў —
і так яны раскруцілі
на восі старой
Зямлю,
што за яе зялёны борт
з трывогай ухапілася
усё чалавецтва!

* * *

Чаму гэтак вабіць барвовасць
вячэрняга сонца ў блакіце?
Ці шум таямнічы дубровы?
Ці вочкі валошкі ў жыце?

Ці вербы — ў вадзе па пахі?
Ці восеньскі покліч птушыны?
Чаму ўсе і барвы і пахі
так хмеляць
у краі радзінным?

Ці родная свежасць слова?
Пачую і ўвесь прасвятлюся!
Саткана ў адзінай аснове
зямная краса Беларусі.

* * *

Чагось як быццам бы не стала
каля ляснога нашага кута...
Няма буслінага гнязда!
Адклекатала...
Адклекатала...

І ад бярозы той, буслінай,— пень.
Ён пеніцца вясной ад шумавіння.
І страты той няшмат,
ды ва ўспаміне
крылом махае мне бусліны дзень...

## *ДВА ЦЫКЛОНЫ*

Два цыклоны, як два цыклопы.
Ледзь учулі адзін аднаго —
разняліся на паў-Еўропы,
сутыкнуліся:
хто — каго?
Выглядаюць людзі пагоды,
ды не праўдзіцца штосьці прагноз.
Дзве стыхіі —
з захаду, ўсходу —
шуганулі з халодных нябёс.

Пайшлі ўпрысядкі дахі навокал.
Захліснуліся рэкі...
Патоп...
Два цыклоны глядзяць аднавока —
не ўступае цыклопу цыклоп.

Месяц, два...
Ні вясны, ні лета.
Навісь хмар не ідзе на згон.
Апантана прэ з-за паўсвету
на цыклон —
антыцыклон.

## *КАМАРЫНАЯ АЛЕГОРЫЯ*

Што там баюць пра мяне, камарочка,
малалеткам галаву толькі марочаць,
быццам шум з-за мяне учыніўся,
калі хмельны я з дуба зваліўся...
Як жа мог я, камар, з высакосці
пакрышыць, паламаць сабе косці?
Мяне скіньце з завоблачнай кручы —
не патрушчу я ног, я — жывучы!
А вялікі з той кручы сарвецца,
ад яго — толькі мокрае месца.
Або скіньце вы з дуба асілка —
і рыхтуйце асілку насілкі!
Вось і гібель прыйшла мастадонтам,
што не ўмелі лятаць над балотам.
І гіганты стракозы звяліся,
бо не ўмелі хавацца пад лісце.
Назаўсёды у бездані кануў
час гігантаў
і магіканаў...

Я ляжу — нада мной верхавіны,
а ля вуха той спеў камарыны.
Разганяе камар маю стому:
быць пігмеем
ці лепей —
са стромы?

* * *

Мне дадзена глядзець на зорны высеў...
І грэцца думкай... Ці не чуеш ты —
у сузіранні гэтай пекнаты —
як хочацца з Зямлі
прыўстаць да высяў!

Цаню свой міг пад родным небасхілам.
Як трэба мне яшчэ душой дабрэць,
каб хоць імгненне ў свеце прамянець,
а не развеяцца
касмічным пылам.

## *АНТЫТЭЗЫ*

Відаць, не дайсці мне
да ўнутранай згоды...
Стаю перад націскам ста антытэз.
Да цябе я — на споведзь,
маці — прырода.
Да цябе — за парадаю,
ойча-лес...

Я ваш гадаванец, падпасак худы,
відаць, і тады ўжо
крыху безгаловы...
На грудзях, на руках —
нібы воспа, сляды —
з тых дзён, калі лазіў
да гнёзд каршуновых...

А колькі тут голас зрываў на ваўкоў!
Не думаў і сам я,
калі галёкаў,
што гэта жыццё
між бяроз, саснякоў
дае толькі першую горыч урокаў!

Ваўкі сёння зводзяцца —
хоць ты завозь!
Ды толькі пабачу,
як нехта бядуе,
заўважу настырныя вушы ці поўсць —
святая наіўнасць ва мне бунтуе!

Разважце мой клопат,
узлескі, бары.

Даруйце, што сын ваш,
як вецер, бяспутны,
калісьці пакінуў ваш дом без пары,
каб біцца ў пытаннях
адвечна-пакутных...

## *КАЛЯ СТАРОЙ ПЛАЦІНЫ*

Каля старой плаціны,
зашыўшыся у цень,
гляджу, як з-пад насцілу
зялёны б'е струмень.

Умшэлі ў ціне палі.
Спяць воды глыбіні,
што застаўкі ўсе рвалі,
крышылі камяні.

Млын журыцца на пенсіі.
Яшчэ ў муцэ стары,
яшчэ у мулкай пене
сцішэлыя віры.

Ды стоена, ў напоры,
трывожная штодня,
вядзе перагаворы
з плацінай глыбіня.

## *БАКАВЫ ВЕЦЕР*

Разбушаваўся
бакавы вецер —
раве і рве!
Бярозы дол падмятаюць
веццем.
Не вецер — звер.

Бухматы воз
ён растрос на шмоцце —
па сенажаці, ўдаль.
Чароды рыбін
сп'янелі ў чароце —
ў калысцы хваль.

Радыруюць лайнеры —
траса прамая,
ды стала, нібы пятля:
бакавы вецер!
Зямля не прымае,
не прымае зямля!

Бакавы вецер
па свеце віхрыцца,
раве і рве.
З цёмнай кучомкаю —
навальніцай —
на галаве!

## *МАТЫЛЬ*

У трыснягу надрэчным першы промень
разрэзаў цемрыва яго лічынкі —
ад сонца ў сіняй пойме ён аслеп!
І паляцеў у мройны, цёплы ранак,
у сіні дзень свой —
першы і апошні!

Каб гэты дзень пражыць свой матыліны,
ён два гады бездапаможна поўзаў
лічынкаю па днішчы ручаін,
ён два гады збіраўся
ў гэты вылет!

Ах, як гулліва ён кружыў —
наперадзе была, здаецца, вечнасць!
Антэнай вусікаў заслухаўся ў сусвет:
стаяла ціша і грымела неба
(«не наваліся ў дзень мой, навальніца!») —
за дзень жыццё патрэбна абляцець,
нектар з-пад кожнай зёлкі паспытаць,
у пары пакружыцца над вадой,
каб жэрахі,
заўважыўшы той лёт,
панадна ўсплёсквалі
на перакатах...

* * *

Таемнасць першасных перапляценняў
мы спазнаём у стратах, спакваля.
Адною тканкай
лісцяў і карэнняў
спрадвеку пераплецена зямля.

Крані адно звяно
з набраклых парасткаў —
і недзе недарод і невырост.
Тапор ударыць —
спадцішка, па-варварску —
і здрыгане зямля за сотні вёрст!

## *ГАНЧАР*

Ваду ў гляку,
кіслае малако ў збанку,
дух печы з гаючым праменнем,
падпечак з яго сутарэннем,
старадаўнія вежы з мурамі,
жывучую вільгаць пад каранямі,
гліняных бажкоў у храмах
(таго, што Адама зляпіў — таксама!),
пеўня-свісцёлку з гарошынай,
чаны з растворам-рошчынай,
ранне дамоў абуджаных,
хлеба прыпёк прысмужаны —
усё, разам з гэтымі вершамі,
ён важка рукамі вымешвае
і формаў дзівосных свячэнне
шукае на крузе вярчэння
Зямлі.

* * *

Я — сучаснік вось гэтых
крывых, гузаватых дубоў,
што зялёнай градой бураломы спынялі;
гэтай упартай травы, што лезе
са шчылін апаленых камяніц;
залацістай пчалы, што нясе
на ножках кашлатых хлябок для малечы.
Я — сучаснік кожнай жывінкі,
што рассеяна шчодра стыхіяй жыцця...
Падумайце — хіба гэта не важна? —
мы ўсе ў адзін час
разам жывём на зямлі,
глядзім у вочы трапяткіх зор,
спяваем і жалімся ветру і веку,
уздыхаем пад ношай трывог...

О, як даражыць павінны
мы ўсе на зямлі
кроўнасцю гэтай...

## *УПАР-ТРАВА*

Расказваў бацька:
бывае на лузе упар-трава.
Ты — касой!
А яна — толькі прыгнецца,
затрымціць, зазвініць,
да зямлі прыляжа...
Ты з размаху — яшчэ!
Шась!..
Толькі пыл ад грудоўя.
А зялёны кудлаты чуб
прыхінецца і выслізне зноў
з-пад ляза...

Не старайся збіць.
Няхай сярод лугу
застаецца зялёны касмыль.
Гэта — упар!
Скасі — усё роўна,
калі будзеш везці сена,
зачэпіцца за куст
і ўцячэ з воза.

## *ПАРАНЕНАЯ ЯБЛЫНЯ*

Зарадзіла яблыня — параненая яблыня.
Кінуў камень нехта ў першы цвет.
А яна штолета чырванее ядрана.
Гоіць — не загоіць чорны след.

Я абмажу глінай — мо яшчэ паправіцца!
Як сваё калена — шалем абвяжу.
А кара ўсё вышай жабіцца, каравіцца.
А з галіны кожнай — яблык па кашу!

Зарадзіла яблыня. Ці не з прадчування
Год нядоўгіх, злічаных — гэты жар ранет?
Выбух красавання, ядранае ранне
Вынесці спяшаецца ў шырокі свет.

* * *

Праходзіў я  
ля нізкіх вокан па завулку:  
з-за пыльных шыб зірнулі неўспадзеў,  
нібы вясновымі вачыма, кветкі —  
рамонкі, ружы і цюльпаны...  
Іх майстравалі ўвішна на сталах,  
выкройвалі пялёсткі з аксаміту,  
з тканіны штучнай, з плюшу.  
У ход ішлі фальга, драты, папера.  
Тут выраслалі лісце і бутоны  
увачавідкі і без чарназёму  
зімой і летам,  
без каранёў зямных...

Калі трапляю зноў на той завулак,  
мяне заўсёды штось бянтэжыць:  
як бы гэта абысці цябе,  
майстэрня штучных кветак?

* * *

Пабудзіў мяне быццам шорах.
Цень ля стоеных сцен паўзе.
Што за ноч —
ані хмар, ані зорак,
толькі месяц у мутнай смузе.

Ці не сумна табе ў адзіноце —
без свайго акружэння свяціл?
Покуль зойдзем за свой небасхіл,
мы — ў адвечным
кругазвароце...

Ды за рысай і той, апошняй,
я не ўвесь адыду, патану.
Покуль месяц над роднаю пожняй
ноччу будзіць трывожна
ад сну.

* * *

Чаму на квецень — халады?
Сякуць вятры дажджом, як лёдам.
Ды пад ружовасцю вады
у венчыках —
зачацце плоду!

Ідзе там спорнае тварэнне
дзівос жыцця —
там б'е агонь!
Знутры займаецца гарэнне...
Вятрам не астудзіць яго!

Дажджом расквасіла дарогу.
Вясельны ўбор —
пялёсткапад —
ляціць на лужыны...
Ды сад
святкуе хмельна перамогу!

## *ГОД СПАКОЙНАГА СЭРЦА*

*Марыйцы*

Можа, у свеце і быў такі год,
год спакойнага сонца,
год спакойнага сэрца...
Мне б адзін толькі год без нягод,
поўны з венцамі, быццам вядзерца.

Каб зачэрпнуць з прадонных крыніц,
не расплюхаць,
не ўскаламуціць...
Мусіць, трохі паэты хлусяць,
што мы прагнем адных навальніц.

Дожджык спорны шапоча ў траве.
Ты — як лекар мой ад бяссонніцы.
Я люблю, калі ў хаце суладнасць жыве
і ў сям'і —
год спакойнага сонца!

Хоць бы год,
каб наш свет — без грымот!
Паласнуўшы, маланка ўсміхнецца...
Ты ж, як зорка, вяшчуеш год,
год спакойнага сонца,
год спакойнага сэрца.

## *ЛАСКАВАСЦЬ*

З гадамі мы часцей, часцей,
як лісце, задыхаемся ад смагі.
Сябе мы пераносім на дзяцей.
Самім жа не хапае ўвагі.

Каханую ў штодзённай мітусні,
у спешцы ранішняй, за кавай,
малю у думках быць ласкавай,
як у пялёсткавыя дні.

Ды нестае ні часу, ні пяшчоты
на пераvале летняе пары.
Узятак самы з верасу ў бары.
І гэтак залаціцца хочуць соты!

Ад водару жыцця душа смыліць.
Яшчэ красуюць буйна ў лесе травы.
Якім цябе мне зеллем напаіць,
каб дзень з табой не хмарны быў —
ласкавы!

* * *

Уражаны сустрэчнаю красой,
сябе ўшчуваю —
то паблажліва, то строга.
Мне слова памагае быць з табой
і пазнаваць глыбей сябе самога.

Краса раскалыханых хваль і воч
так часам б'ецца ў бераг мой і раніць,
што я махнуў бы сцежкаю наўзбоч,
ды боязна ў сабе штосьці апаганіць.

На галаву абрушваецца шал
высокіх хваль,
русалак асмялелых....
Навечна целу дадзена душа.
Бяда, калі душу губляе цела!

Расстанне абвастрае боль і зрок.
Іду і ціха гавару з табою.
Я толькі не даваў табе зарок
перад адной спакусніцай —
красою!

* * *

Ты даравала ўсё. Густой травой
хай тое зарасце... Мінуліся ілюзіі.
Свой даўкі боль
і горкі сорам мой
ты мудра не выносіла на людзі.

Маю бяду,
сваю — ўтрая! — бяду
не выстаўляла для спажывы на пасмешышча.
Хоць з мутнаю вадой
крыштальную ваду
перамяшала гэтак недарэчы рэчышча.

Закон ракі...
Я п'ю зноў водар твой!
Ад самага вытоку з дна — свячэнне!
Рака жыцця згубіла б, мусіць, воблік свой,
калі б не знала самаачышчэння.

## *ТВОЙ ПОКЛІЧ*

***(Аналогія)***

Твой покліч сярод ночы
адкінуў з мяне соннае здранцвенне,
ён працінаў мяне нямым дакорам:
«...Чаму, каханы, гэтак ты бяспечна
пакінуў мяне ў горадзе адну,
адну на доўгія дні, ночы,
сярод пажоўклых сквераў, сцежак,
сярод самоты даўкай і спакусы,
сярод усмешак і вачэй прыліплых —
каханы, на каго мяне пакінуў?
Няўжо ў трывожным прадчуванні
не скаланулася ні разу
тваё сэрца?..

Крый божа, не затрымвайся!
Агонь пакінуў,
а застанеш попел...»

## *НЕ ШКАДУЙ*

Не шкадуй мяне, родная.
Не пішы, калі слова Твайго
чакаю, як ластаўку,
што прыносіць у сэрца вясну...
Не адгукайся, калі клічу Цябе,
разбіваючы рукі і вусны
аб чорныя хвілі самоты, чакання...
Не прыходзь да мяне
нават у мройлівы сон,
покуль даўкі, абвостраны боль
не прамые, нарэшце, вачэй маіх,
не навучыць з надзеяй світальнай
углядацца ў Твой лёс
і штоміг паміраць за Цябе
у пакутна народжаным слове...

* * *

Ці мне можна ў час сустрэчы
Паводзіць так сябе — як калісь?
Ці магу з лугоў надрэчных
падарыць вясну — як калісь?

Ці мне можна будзе ўлетку
ноч блукаць з табой — як калісь?
І ці будуць тыя кветкі
пахнуць хмельна так — як калісь?

* * *

Цябе, мой край,
я толькі распачаў.
Я столькі год цябе ў душы насіў!
Прасіўся ў слова край —
мой абычай,
зялёны неагледжаны масіў.

Я толькі развязаў дзівосны схоў,
крануў смялей
мной не абжыты кут,
дзе кожная сцяблінка ніў, лугоў,
дзе кожная душа людская — цуд!

Гняздоўе неадступных дум, трывог,
паселішча радзінных душ і дрэў,
нібы цяпельца, я ў сабе збярог,
каб хтось са мной
тут сэрца адагрэў.

* * *

Ад сябе не ўцячэш.
Не ўцячэш і ад часу.
Ні ў зялёны куток —
у духмяны настой,
ні ў прыстанішча кніг,
ні ў інтымны настрой.
Ёсць пытанні —
і ты не ўцячэш ад адказу.

Ты ідзеш.... Пад нагамі
пыліцца трыпутнік.
Яму хочацца свежасці рос,
пекнаты...
Ты народжан зямлёю:
не проста наступнік,
ты заступнік
яе хараства, праваты.

Думай, думай —
іначай, навошта ты?

* * *

Закружыліся годы мае,
як вятры ў ліставеі...
Толькі б выказаць мне
квецень і спеласць
палеткаў, садоў...
На прыбаўку гадоў —
да жыцця! —
аніякай надзеі.
Мне б прыбаўку жыцця —
да гадоў...
Жыцця да гадоў!

## *ЗМЕСТ*

*ДЗВЕ ПАЭМЫ*



*ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ*

Арочка М.
А 84 Матчына жыта. Паэмы і вершы. Мн., «Маст. літ.», 1978.
128 с. з іл.

Новая кніга паэм і вершаў Міколы Арочкі — пра родную зямлю, пра тыя няпростыя жыццёвыя дарогі, якія ажываюць у трывожных і дарагіх асацыяцыях-успамінах, пра сучасны свет.

Аўтар імкнецца перадаць багацце душы нашага чалавека, яго мнагастайныя адносіны з грамадствам, складаныя ўзаемадачыненні са светам прыроды, з той першароднай гармоніяй і красой, якім заўсёды няпроста самасцвярджацца.

А $\frac{70403-058}{М\ 302(05)-78}$ 39—78 Бел 2

*Николай Николаевич Арочко*

Материнское жито

Поэмы и стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак І. М. Андрыянаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 85

Здадзена ў набор 10.05.77. Падп. да друку 10.03.78. АТ 09621. Фармат 70×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Шрыфт абык.-нов. Друк выс. Ум. друк. арк. 4,68. Ул.-выд. арк. 4,25. Тыраж 4900 экз. Зак. 687. Цана 50 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220004, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.